# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1517) ГОД XXX БЕЛАСТОК 9 ЧЭРВЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Грузкая

Трапіць у гэтае невялічкае сялцо няцяжка: з шашы Кляшчэлі — Мілейчыцы, у двух кіламетрах за вёскай Дашы, паварочваеце направа і ў кіламетры па нядрэннай жвіроўцы вы ўжо ў Грузкай. Як мяркуе патомны грузкавец Іван Качук (з 1909 года нараджэння) вёсачка заімела назву ад грузкавага броду на рачулцы Грузкая, якая выцякае непадалёк і ўпадае ў рэчку Нурэц. Калісьці рачулка не была такім мізэрным ровам, як цяпер, бо пры паншчыне па ёй нават дрэва „гналі“ з навакольных лясоў.

Старажытны чалавек пакінуў сляды свайго прабывання тут трыма магільнымі курганамі. Каля былога маёнтку Калечыцы дагэтуль захаваўся з іх толькі адзін, зямлю з другога даўно ўжо вывезлі на пабудову дарог, а трэці якраз цяпер гіне, бо з яго бяруць зямлю. Па апавяданнях можна меркаваць, што гэтыя „копцы“ — могільнік беларускага племені дрыгавічоў, пасля крэпасці якіх захавалася гарадзішча каля вёскі Малочкі. Абодва помнікі — гарадзішча на правым беразе рачулкі і могільнік на левым — трэба, мабыць, аднесці да VIII-XII стагоддзяў. Магчыма, што гэтае дрыгавіцкае насельніцтва загінула, або было выселена падчас тых кровапралітных знішчажальных падзей, якія навалiліся на наша Пабужжа і Панароўе ў XII-XIV ст. ст.



Надзея і аснова мільянерскай гаспадаркі Гаўрылюкоў — іхні сын Яўген.

Упершыню ў вядомых нам дакументах пра „засценак на Грузкім, які адным канцом упіраецца ў рэчку Грузкую“, упамінаецца ў 1560 годзе, а пра весачку Грузкая гаворыцца ў запісе з 1676 года.

Як кожная даўно абжытая мясцовасць, так і Грузкая спавіта легендамі. І так, непадалёк старога гасцінца з Мілейчыцаў у Боцькі час ад часу падарожным явіцца ноччу нейкі дзівосны агонь. Здалёк ён палае яскравым полымем, а па меры, як набліжаешся да яго, — змяншаецца і цалкам гіне. На багне Страшны луг калісьці была такая бяздонная прорва, што як у яе ўпадала карова, то выплывала наверх аж за 30 кіламетраў у рацэ Нурцы каля Бранска.

Легендарнымі сталі таксама і часы паншчыны. З вусных пераказаў вынікае, што тады ў Грузкай быў фальварак, які належаў да двара ў Снежках. Да фальварку належала 8 сялянскіх участкаў (валокаў), якія паны забаранілі дзяліць. Валоку ва ўладанне заўсёды атрымоўваў найстарэйшы сын, а ўсе іншыя дзеці мусілі „выходзіць“ з дому або ў іншыя сем'і, або ў двор „на службу“. Тым, хто ішоў у парабкі, пан даваў кавалачак зямлі пад хату і агарод ды каля паўтары дзесяціны зямлі. Таму, мабыць, у Грузкай захавалася старадаўняя планіроўка паселішча. „Будовалісе кожон оддельно, у выгодных месцах, коло рэчачкі“, — заўважае патомны грузкавец, 76-гадовы Іван Качук, сын эканома ў фальварку. Нягледзячы на забарону драблення гаспадарак, усё ж адчуваўся тут вялікі голад на зямлю. Грузкаўцы адымалі сабе ад вуснаў, ашчаджалі на ўсім, каб толькі прыдбаць які загон. Бралі таксама зямлю ў двары на 4-ы або і 3-і сноп, г.зн. аддавалі пану чацвёртую ці нават трэцюю частку плёну. Вядома, пан здаваў у арэнду самую слабую, самую горшую зямлю, але і за ёю сяляне пхаліся адзін перад другім, болей таго: каб дастаць кавалачак, трэба было пахадзіць на работу ў двор. А плацілі ў двары слаба: жанцу — 2 злотых днёўка, касцу — 2,5 — 3 зл., капачу 1-1,5 зл. А тады 1 кг цукру каштаваў 1 зл. 5 гр.

Мясцовасць не багатая назвамі палеткаў і ўрочышчаў: Высмалёнэ (лес), Вэрх (лес), Кліп (поле), Кузьмінске (поле), Луг (рэчачка, поплаў, лясок), Маёнтковэ (поле), Мосток (поле, поплаў), Мэжы (лес на граніцы з уладаннямі суседняй вёскі Рагачы), Рызкі (поле). Прозвішчы патомных, старых сялянскіх родаў: Бадавец, Барэйчык, Ваўчук, Гаўрылюк, Качук і Манцюк. Цікава, што ў канцы XIX ст. тут у праваслаўных былі падвойныя імёны, напрыклад: Іван Іоў Качук. Магчыма, што гэта была нейкая рэштка традыцыі з уніяцкіх часоў.

Пры цары толькі таму Івану Іову Качуку — эканому ў фальварку — удалося накіраваць двух сыноў у ваенныя школы, дзеці іншых заставаліся або на

(Працяг на стар. 4)

# Ахова Пагранічча

Адгрымелі ў Еўропе апошнія стрэлы II сусветнай вайны. Польская дзяржава адрадзілася ў новых, справядлівых межах. Яна вярнулася на даўнія пястоўскія, этнічна польскія землі над Балтыкай, Одрай і Нысай. 18 мая 1945 года камандуючы II Арміі Войска Польскага, генерал Кароль Сярчэўскі атрымаў загад забяспечыць заходнюю граніцу краіны. Загад быў выкананы 10 чэрвеня 1945 года франтавымі часцямі Людовага Войска Польскага. Нягледзячы на тое, што Войскі Аховы Пагранічча былі сарганізаваны некалькімі месяцамі пазней, то дзень 10 чэрвеня адзначаецца як свята польскіх пагранічнікаў.

У першыя пасляваенныя гады ахоўваць дзяржаўную граніцу было вельмі цяжка. Гаспадарка была разбурана вайной. Народная ўлада толькі што станавілася. Амаль на ўсёй тэрыторыі краіны дзейнічалі варожыя падпольныя групы. Пагранічныя раёны былі найбольш небяспечнымі. Не хапала афіцэрскіх кадраў і вопыту ў ахове пагранічча. Арганізаванне Войск Аховы Пагранічча мела вялікае значэнне для Народнай Польшчы. Служба пагранічнікаў праходзіла ў цяжкіх умовах. Аднак ужо ў канцы 1945 года Войскі Аховы Пагранічча перанялі ахову дзяржаўнай мяжы. Сярод салдатаў і афіцэраў польскіх пагранічнікаў многа было тых, якія раней служылі ў Савецкай Арміі і здабывалі вопыт у забеспячэнні граніцы. І так, першым шэфам дэпартамента ВОП ПНР быў палкоўнік Гвідон Чэрвіньскі. Нарадзіўся ён у 1902 годзе каля Стоўбцаў на Міншчыне. З 1918 года служыў і змагаўся за Савецкую ўладу ў Чырвонай Арміі. У трыццатыя гады закончыў вышэйшую афіцэрскую школу і пасля быў камандзірам вайсковай часці пагранічнікаў, у тым служыў і на Беларусі. У суровы 1941 год, як камандзір палка змагаўся ён пад Масквой, там быў цяжка паранены. Вясной 1943 года палкоўнік Гвідон Чэрвіньскі папрасіў перанесці яго ў арганізаванае ў Сельцах над Акой Войска Польскае. У яго шарэнгах прайшоў баявы шлях ад Леніна да Берліна. У маі 1946 года яму было прысвоена званне генерала. Чэрвіньскі і многія іншыя выхадцы з беларускай зямлі ўнеслі знач-

(Працяг на стар. 3)

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

Ой, і памяць ужо не тая, і вобраз зацёрты... Не памятаецца ўсяго. Вобраз... вобраз няпоўны.. Цяпер я, о, пярсцёнкі так прыхавала, што і знайсці не магу, а хлопцу патрэбны. Сама з сябе выходжу, пяць разоў хату ўсю перавярнула, і знайсці ніяк не магу.

А гэта ад таго, як тыя шайкі зачасцілі да нас. А гэта ўсё звязана з тымі, што жывуць у нашым блоку. Я падазравала, і гаварыла і была ў міліцыі. Раніцай зрабілі, не скажу, аблаву на гэтых п'яніцаў і назбіралі іх цэлы самаход. Ведаеце, ударыш у стол, ножніцы адазвуцца. Тая сямейка адразу, ні муж, ні жонка, ні дзеці — ніхто нават „дзень добры", ані адазвуцца. І тады... Каб я тады не падышла да іх хітра, ад іх не адчапілася б ніколі. Але і цяпер зяцёк такі з Бельска, славуты, адным словам, здаўна ходзіць за мною, назірае, а яшчэ цяпер і жанчына адна новая да іх далучылася. Прыходзіць увечары і так гаворыць за дзвярыма: „Пусціце мяне ў хату". Я пытаю, хто яна, а было ўжо пазней дзесяці, памятаю, цікавы фільм само быў. А тая ізноў: „Пусці мяне да сябе, то скажу". Стукае, святла на клетцы няма, бо пакралі лямпачкі. Думаю я: „Колькі вас там, чэрцяў, за дзвярыма ёсць, не ведаю..." Яны заўсёды ведаюць, што як гавораць паціху, то я не чую, бо прытвараюся глухой. Дабіваюцца ўсяляк, а то жонкі шукаюць, а то доктара. У нас тут тры адзінокія жанчыны і пара старэчаў, але дзядок яшчэ дужы, бадзёры, страшыў тых бандытаў сякераю, і ўвогуле... І я тады, каб не зшукала, не ведаю, што было б... Гавораць, што наш раённы міліцыянер якісьці мала энергічны. Нат не ведаю, які ён з выгляду...

Але ўвогуле, то міліцыя ўзялася за наш дом. Скажу паціху: ён напалавіну зладзейскі, напалавіну..., і вельмі дрэнную рэпутацыю мае, ведаеце. Мне міліцыянер сказаў: „Тут за 150 злотых забіць могуць, такія бываюць тут людзі". Кажу я гэтаму хлопцу: „Пакуль вы нарадзіліся, я ўжо дзяцей вучыла. Такія вучні былі, як вы, а можа і старэйшыя, зараз жа пасля вайны". „А, значыцца, вы — педагог, вы да гэтых бандытаў падышлі псіхалагічна". А так, я была настаўніцай, і яшчэ не забылася, як з такімі падлеткамі гаварыць...

### І НЯМА СПАКОЮ



Ведаеце, як нам тыя здароўе выелі! Аконца ў дзвярах няма, а і так лямпачкі выкручаны, нічога не відаць. Стаяць, дапытваюцца, сядзяць па 5 гадзін у таксоўцы пад блокам. Не вытрымала я, крычу: „А пашлі вы да чорта, зладзеі! Юрка, уставай ты хутчэй, чаго там валяешся ў ложку! Маці тут ваюе пад дзвярыма. Яшчэ смяецца! Не смейся, не смейся, паглядзі, што тут будзе..." А Юрка мой цяпер ужо ў арміі. Крычу: скажы камандзіру, каб цябе пускаў дахаты начаваць, а то маці сама!"

А тая адзываецца, што яна доктара шукае. Нашто ёй лекар, калі шпіталь амаль пад носам? А можа жонка лекара яна? А што мне да таго, з кім хто жыве!

Няма спакою. Калісьці ноч у ноч, як не тая халера, то іншая, а чалавек жа адзінокі. Смяюцца ўжо з мяне, кажуць: „Спадабалася нейкаму, го і прыходзіць".

Калісьці я была баявая. Мама кажа мне: „Не падавай у суд мужа хаця да Вялікадня, то ж якраз Вялікі тыдзень!" А я — не, паехала, памятаю, у сераду. А гэтыя суды, той такі суд развадовы... Колькі гэта здароўя каштуе, колькі ўсяго чалавек наслухаецца. І падумаеш сабе: „Гэта быў твой муж, найдаражэйшы". І ведаеце, якраз 8 год мінула ў студзені ад таго часу, як ён адышоў, і не раз траплялiся сапраўды добрыя людзі, я сказала: „Не!". І хоць бы і дзічкі. Не паніжаю нікога, можа ты і вельмі добры чалавек, і тое, і сёе, але — не! Нічога, што я была настаўніцай, а цяпер я ўжо ніжэй тое, што падмятала, бо тая жанчына не нервавалася: падмятала вуліцу ці бюро. Яна спакойна жыла, а я нервіцу маю. Ён усё казаў, што гэта ад мае працы. Работу каханую я мела, каханую работу, любіла я яе, і дзеці мяне любілі. А дома толькі... з мужанькам маім міленькім... Цяпер то я ўжо і не ведаю, не ўяўляю сабе, як я ўсё гэта перажыла...

Я так гавару, гавару, ведаеце, сказамі такімі абрывачнымі, проста не хапае мне слоў — такое якоесьці атупенне.

Памятаю, вучыла я польскай, рускай і беларускай мовам. Па-беларуску я калісьці плаўна, прыгожа гаварыла. Цяпер ужо нават і ў галаве... што я вучыла па-беларуску. Але як была ў Брэсце, то ведаеце, велікарусы думалі, што я сама з Мінска...

Божа мой, 65 год... Калісьці здавалася мне: што 50 год — гэта найважнейшая граніца. Але не, гэта — 60 год. Ахапляе мяне нейкая меланхолія... роспач... Ужо з горачкі... Дзе ж мая радасць жыцця, дзе ж яна падзелася?

Нядаўна, як мы шукалі тых пярсцёнкаў, дзеці знайшлі якісьці вузельчык. Чорныя панчохі ў ім і іншыя дробязі былі. „Мама, паглядзі, палажыла ты сюды, пэўна, і забылася", — кажа дачка. Не, не забылася. Гэта ўсе мае пажыткі, мой апошні багаж. Вось, што чалавеку астаецца.

**Міра Лукша**

---

(Працяг са стар. 1)

## АХОВА ПАГРАНІЧЧА

ны ўклад у забеспячэнне дзяржаўнай граніцы Польскай Народнай Рэспублікі.

У 1954 годзе на заходняй граніцы, спаўняючы патрыятычны абавязак, загінуў Віктар Гапунік. Гэта быў малады хлопец з вёскі Зубры на Беласточчыне. Ён трывала ўпісаўся ў хроніку Войск Аховы Пагранічча. З яго асобай неабходна шырэй пазнаёміць насельніцтва Беласточчыны. Аб жыцці і подзвігу Віктара Гапуніка будзе іншым разам.

Бягучы год юбілейны: у ім святкуем 40-годдзе Войск Аховы Пагранічча. Гэты юбілей урачыста адзначаецца ў цэлай краіне, у тым і на Беласточчыне. У маі б.г. уздоўж усяго пагранічча краіны адбылася эстафета пад лозунгам „40-годдзе ВОП". Завітала яна таксама ў Беласток, Сямяцічы, Чаромху і Гарадок. З гэтай нагоды адбыліся сустрэчы ветэранаў, салдат-перадавікоў па службе, моладзі і насельніцтва пагранічных мясцовасцей. На салдацкіх магілах, ля помнікаў барацьбітам за свабоду і народную ўладу ўскладаліся кветкі. Адбываліся ўрачыстыя мітынгі і мастацкія выступленні.

Чаромха — прыгранічная мясцовасць на поўдні нашага ваяводства. Эстафета „40-годдзя ВОП" завітала сюды 20 мая б.г. На плошчы ля дома культуры „Калеяж" трыбуна і эстрада. Ад поўдня прыўзняты настрой. Плошча ўпрыгожаная дзяржаўнымі сцягамі і лозунгамі, запаўняецца моладдзю, жыхарамі Чаромхі і навакольных вёсак. У семнаццаць гадзін прыехала эстафета. Пагранічнікаў прывіталі прадстаўнікі адміністрацыйных улад і палітычных арганізацый гміны. Затым паплылі мелодыі ў выкананні вайсковага аркестра. Святочны настрой у многалюднай публікі. На трыбуне ветэраны Польскага Войска, афіцэры ВОП, прадстаўнікі грамадства. Урачыстыя прамовы з нагоды 40-годдзя Перамогі і ўтварэння ВОП. У іх гаварылася аб традыцыях пагранічных войск, адказнай службе ў ахове дзяржаўнай граніцы і аб супрацоўніцтве з насельніцтвам прыгранічнай зоны.

Неўзабаве на плошчу прыбягае ўдзельнік марафона Мечыслаў Скурнатовіч, які ў гонар юбілею ВОП бяжыць уздоўж дзяржаўнай граніцы ПНР. Публіка цёпла прывітала бегуна воплескамі. Пасля афіцыйнай часткі на эстрадзе выступіў вакальна-інструментальны калектыў „Аверс" з Чаромхі. Змяніў яго аматарскі ансамбль „Пагранічча" з Падляшска-Мазурскай брыгады ВОП. Прадставіў ён пастаноўку, прысвечаную юбілярам перамогі над фашыстамі і пагранічных войск. Паказалі яны таксама ў лірычна-жартоўнай форме штодзённую службу салдата. Маладыя, сімпатычныя самадзейнікі „Пагранічча" сваёй цікавай праграмай запалалі гледачоў.

На заканчэнне ўрачыстасці ў Чаромсе была наладжана сустрэча пакаленняў ля вогнішча. Усе ўдзельнікі пайшлі ва ўрочышча Каганка, дзе прадаўжалася святкаванне. Там былі праведзены конкурсы для гарцэраў.

Прыгожы і цікавы гэта быў дзень у Чаромсе і застанецца ён надоўга ў памяці ўдзельнікаў сустрэчы. Эстафета „40-годдзя ВОП" рушыла ў далейшы рэйд па Беласточчыне і па краіне.

**Ян Мордань**

---

# Фэстын у Беластоку, Купалле на Нарве

Пасяджэнне Прэзідыума Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, якое пад старшынствам Валянціны Ласкевіч адбылося 16 мая г.г., абмеркавала і прыняло да выканання план працы да канца 1985 года. Да бягучых заданняў яно залічыла: 1. настойлівыя старанні пра адкрыццё навучання беларускай мовы ў г. Беластоку; 2. развіццё і ўзмацненне розных форм беларускага аматарскага руху; 3. пашырэнне і паглыбленне працы аддзела з дзецьмі і моладдзю; 4. належную падрыхтоўку і праўнае правядзенне розных БГКТоўскіх імпрэзаў.

Члены Прэзідыума дакладна абмеркавалі справы, звязаныя з правядзеннем 30 чэрвеня г.г. у беластоцкім амфітэатры беларускага фэстына, які будзе праходзіць пад лозунгам „40 год Перамогі над фашызмам" і якому патрануе Гарадская рада ПРОН у Беластоку. Да ўдзелу ў імпрэзе запрошаны лепшыя салісты, дуэты і хоры БГКТ, а таксама калектывы іншых грамадскіх і маладзёжных арганізацый. Можна будзе набыць беларускія кнігі. Гандлюючыя арганізацыі абяцаюць забяспечыць саладосцямі, напіткамі і іншымі таварамі. Пачатак фэстына а 15-й гадзіне.

Аддзел спрабуе ўзнавіць Купалле — спрадвечнае народнае беларускае свята. Разам з гуртком БГКТ у Рыбалах рыхтуецца правесці ў купальскую ноч з 6 на 7 ліпеня г.г. на беразе ракі Нарвы першую купальскую імпрэзу на Беласточчыне з палаючым вогнішчам, ачышчальнымі скокамі над полымем, карагодамі вакол агню, песнямі, дэкламацыямі вершаў Янкі Купалы, пусканнем вянкоў са свечкамі на Нарве, пачастункам, ну, і вядома — шуканнем папараці-кветкі ў лесе. Да ўдзелу ў імпрэзе беластоцкі аддзел і рыбалаўскі гурток БГКТ запрашаюць усіх, асабліва моладзь з ваколіц Рыбалаў. Пачатак Купалля на Нарве каля гадзіны 21-й.

На пасяджэнні прынята рашэнне ў верасні г.г. аднавіць працу дзіцячага танцавальнага калектыву, сарганізаваць музычны калектыў і правесці ўрачыстае адкрыццё культурна-асветнага сезона 1985/86. У асеннія месяцы плануецца спапулярызаваць і правесці „Сустрэчу з фальклорам" — плён конкурсу народных спевакоў, музыкаў, вышыўкі, гафту, разьбы. Аддзел пачынае захады пра адкрыццё пры ім філіяла музычнага асяродка (агніска) з навучаннем ігры на інструментах, у тым на мандалінах. У сувязі з тым, што ў будынку ГП БГКТ пачаўся капітальны рамонт, многія з гэтых мерапрыемстваў будуць праводзіцца ў памяшканнях іншых культурна-асветных арганізацый і ўстаноў г. Беластока. Пра гэта аддзел ужо пачаў захады.

І так, пасяджэнне Беластоцкага аддзела было працавітае і плённае.

**(іс)**

Сваты. Апрача назвы „сваты“ выступае таксама назва „дзіваснубы“. Сваты былі другім актам вясельнага спектакля. У адваротнасці да допытаў, сваты былі актам больш яўным і паказным. Хаця і тут у некаторых выпадках, асабліва тады, калі сваты накіроўваліся ў хату дзяўчыны, заўважалася пэўная маскіроўка. Калі аднак сваты канчаліся паспяхова, тады, пакідаючы дом маладой, паводзілі сябе дэманстрацыйна, падкрэсліваючы сваю важнасць і прэстыж. У абрадзе сватоў на Беласточчыне прымалі ўдзел хлапец, які намерваўся заснаваць сям'ю, і яго апякун, званы сватам, маршалкам або райкам. Беларуская вясельная абраднасць на Беласточчыне не пацвярджае інфармацыі выдатнага фалькларазнаўцы М. Доўнар-Запольскага аб тым, што ў сваты хлопец накіроўваўся ў групе чатырох ці пяці чалавек.

На Беласточчыне амаль заўсёды хлопец падаваўся ў дом дзяўчыны толькі з апекуном. Апякун мусіў адпавядаць акрэсленым патрабаванням. Павінен быць жанаты і добра гаварыць. На свата-маршалка выбіралі як правіла чалавека сярэдніх гадоў, які быў сваяком маладога, або быў з яго сям'ёю ў прыязных адносінах.

У многіх вёсках жылі мужчыны, якія карысталіся славай дасканалых сватоў-маршалкаў. Гаварылася аб іх, што яны маюць „лёгкую руку“ і што хлопцы, якія з імі накіроўваліся ў сваты, лёгка і ўдачна жаніліся. Такім мужчынам ахвотна даручалі вясельную місію з наступных прычын:

па-першае, пры кожным ўдачным сватанні сват-маршалак атрымліваў ручнік;

па-другое, меў ён мноства аказій, каб пры розных фазах вяселля наесціся і напіцца;

па-трэцяе, ён гарантаваў сабе ўдзячнасць і прэстыж.

Істотнай справай у вясельным працэсе быў выбар дня, у якім хлопец і яго апякун накіроўваліся ў сваты. У беларускім асяроддзі існавала перакананне аб спрыяльных і неспрыяльных



днях. Момант гэты знайшоў адлюстраванне ў народных прыказках і прымаўках. Вось некаторыя з іх:

Панядзелак пусты, як гаршчок ад капусты. Сватоў не прымае, кожнага ашукае.

Паедзеш у сваты ў аўторак — аб'едзеш сорак.

У сераду ў сваты — не будзеш шчаслівы ні багаты.

Сваты ў чацвер — вяселле цяпер.

У пятніцу сватаны — будзе ашуканы.

Пазычай боты — ідзі ў сваты ў суботу.

Вымова зместу прыведзеных прымавак адназначная.

Шчаслівымі днямі лічыліся чацвер і субота. Якраз з гэтай прычыны амаль заўсёды на Беласточчыне ў сваты накіроўваліся ў чацвер або ў суботу.

Варта падкрэсліць, што забабонная вера ў шчаслівыя і нешчаслівыя дні, адносілася не толькі да сватаў. Выступала яна і ў многіх іншых сферах жыцця і дзейнасці беларусаў. Для прыкладу, у панядзелкі або ў пятніцы людзі не распачыналі жніва, не расчынялі хлеба, не пачыналі дзіцяці.

Спецыфіка сватання на Беласточчыне застаецца часткова ў згодзе з характарыстыкай гэтага акту, якую зрабіў выдатны знаўца прадмета Е. Карскі. Вось фрагмент яго выказвання:

„Это посольство обыкновенно вечером отправляется к дому невесты, здесь они останавливаются под окном, стучат и просятся переночевать. Домашние сначала не пускают сватов в дом, но потом соглашаются. Войдя в комнату, после же относящихся к делу разговоров, сват начинает иносказательно уяснять цель своего прихода, выставляет себя и своих товарищей ловцами-охотниками князя, которые попали на след лисицы, куницы, по этому следу они и пришли в дом невесты“.

На Беласточчыне наогул сваты не ўваходзілі адразу „да ізбы“, а толькі затрымліваліся пры парозе і там стоячы вялі размову з гаспадарамі.

**А. Баршчэўскі**




# СЮРПРЫЗ

А ўсё жыццё мне робіць сюрпрызы.

Вось хоць бы такі. Вяртаюся з працы нармальна. Памыўся, паеў, лёг спаць. Ноччу нешта кашмарнае прыснілася — закрычаў, аж жонку разбудзіў.

— Што з табою? — пытае.

Я сам не ведаю, на якім свеце знаходжуся: захацеў падняцца і не магу. Нейкі параліч круціць мне косці, прыцягвае да ложка. „Няўжо канчына мая прыходзіць“, — думаю, а жонцы кажу:

— Устаць не магу, занямог.

Жонка спалохалася. Пачала расціраць мне хворую нагу, усё цела. А боль не праходзіць. Думаў да ранку дачакаць, там лекара паклікаць. Ды не вытрымаў. Паслаў жонку за хуткай дапамогай. Схапіў нейкія таблеткі і пачаў глытаць.

Жонка вярнулася і сказала:

— Казалі: прыедуць.

Як на хуткую дапамогу, прыехалі хутка. Яшчэ не пераступіўшы парога, барадатая персона загрымела:

— Што там?

А калі я расплюшчыў вочы і паспрабаваў падняць галаву, злосна дадала:

— Вы не хворы, я тут нічога не бачу.

Дарэмна я намагаўся растлумачыць сваю хваробу. Да слова мяне дапусціць лекар не хацеў. з жонкай пасварыўся. Нарэшце сказаў:

— У такую пару выцягваць людзей! Вы — сімулянт, у калегію падам!

Лякарства не запісаў і паехаў. Я думаў, што раніцы не дачакаю. Жонка пабегла ў чыгуначную прыёмную за лекарам. Той прыехаў, абслухаў, запісаў лякарства, выдаў звальненне ад працы і сказаў пасля наведаць лекара, бо ён толькі фельчар і не можа прадоўжыць звальнення. Другі лекар пацвердзіў маю хваробу, але ад далейшага звальнення я сам адмовіўся — грошыкаў пашкадаваў, бо з зарплаты адлічаць.

Праз некалькі дзён даведаўся, што лекар з хуткай дапамогі сапраўды падаў мяне ў калегію.

Не пісаў я скаргі, проста пагаварыў шчыра з дырэктарам ЗОЗу ў Гайнаўцы. Той абяцаў разабрацца.

А мо гэта чарговы сюрпрыз рыхтуе табе, братка, жыццё?

**Ул. Сідарук**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Адкуль грэх, адтуль і спасенне.

Ад ліхога канца нідзе не ўцячэш.

Адны вочы і плачуць і смяюцца.

Ад смерці доктара няма.

Ад хваробы ніхто не зарашэ.

Болька больцы не роўная.

Душа чалавеча рагатая, без пары не вылезе.

Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

# КОЖОН ПОГЛЕДАЕ

### (СЕНАКОСНАЯ)

Зажурылася молодая ўдовонька,
што нікошона зелёна
дубровонька.
— Ой, дай жэ, Божэ, ніделенькі
прыждаті,
ой, то я пойду косяроў наніматі.
Найму косяроў сто двадестя
чотыры,
коб выкосілі тые лугі-доліны.
Косяры косят, а ветёр повівае,
на молоду ўдову кожон
погледае.




Ад Вольгі Нікановіч, 1889 года нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў у верасні 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

дня на дзень, але з гадзіны на гадзіну! У прадвесне ён ужо ў Маскве, дзе стаў сакратаром аднаго з аддзелаў Беларускага нацыянальнага камісарыята і, адначасова, супрацоўнікам першай савецкай беларускай газеты „Дзянніца“. Той час перажыў Дварчанін напэўна драматычна. Прабраўся ў родныя мясціны, у Дзятлаўшчыну, дзе спрабаваў акунуцца са сваёй актыўнасцю ў народ. Схоплены легіянерамі Пілсудскага, адчуў пацалунак смерці, калі апынуўся ў беластоцкім лагеры. Маючы ў сабе афіцэрскі спрыт і адчайнасць, шчасліва ўцёк адтуль.

Сочачы за перыпетыямі Ігната Дварчаніна, асабліва за ягоным паўторным з'яўленнем у Мінску, ужо савецкім, ды перавандраваннем потым адтуль — гэтак жа пешкі — у Вільню, вераснем 1920 года, неадчэпнай робіцца думка, што не быў з яго адпаведны матэрыял на парадзістага палітыка. Занадта шчырым, надта і сентыментальным аказаўся ён, лёгкім на пávер (даволі тыповая загана наогул у беларускай палітыцы). Гэтае яго „не ўмею я таіцца і не хачу“ ішло за ім, быццам праклён. Таму, як здаецца, самым шчаслівым яму было тое пяцігоддзе ў залатой Празе, калі, нарэшце, ён заглыбіўся ў вялікую навуку, аб чым так моцна марыў (Чэхаславакія давала стыпендыі здольнай заходнебеларускай моладзі). Ён, былы начны сторож у Вільні, узяўся вывучаць філасофію, дасягнуўшы доктарскага звання за дысертацыю, напісаную пачэшску: „Францішак Скарына — дзеяч культуры і гуманіст на беларускай глебе“. Вывучаў таксама сусветную літаратуру і еўрапейскія мовы, пісаў і свае літаратурныя творы, перакладаў. Сваркі там з эмігрантамі яму гэтак жа бокам вылазілі.

Прагу дваццаць пятага года — каторы ўжо раз? — наведаў сам Браніслаў Тарашкевіч са сваймі прафесарскімі лекцыямі, але і з выключнай місіяй, пра якую ўголас не гаварылася: трэба было маладых ды інтэлігентных кадраў для масавай, цалкам народнай партыі, якую мы ведаем цяпер як Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. Ён і Дварчанін — абодва яны былі ў сённяшнім узросце дзяцей „Нівы“ і можна сабе ўявіць усю сардэчнасць або і бесклапоцтае іхняй сустрэчы, гарачыню гутарак, у якіх адзін аднаму не ўступілі выдатнасцю розуму, глыбінёю аналізаў, зразуменнем на паўслове! Нават слаба вопытнаму ў палітыцы не магло не быць ясна, што задуманая Грамада будзе разбіта дзяржаўным апаратам, і што не сэнс у тым, каб, скарыстаўшы зручны момант ва ўнутраным становішчы краіны, прайшла яна навальнічным землетрасеннем па неразбуджанай да канца Заходняй Беларусі (істотным чынам спрыялі таму паўстанцкія тут настроі пачатку таго ж дваццацігоддзя). Гэта адсюль бралася ідэя „другой лініі акопаў“ — пераўтварэнне менавіта Таварыства беларускай школы ў папулярную арганізацыю, аднак са статусам культурна-асветнай, але з кі-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 5)

# Ігната Дварчаніна нездзяйсненне

раўнічым актывам, які падтрымліваў бы грамадоўскія здабыткі. Здарылася, як прадбачылі.

Ігнат Дварчанін прыехаў у Вільню праз год пасля, перад летам, калі Грамада якраз набывала свайго размаху гіганта, у яе гурткі, запісваліся вёскамі, а на іх сходах несарыентаваныя ў бурлівых падзеях паліцыянты выструньваліся „на смірна“ і салютавалі заходнебеларускаму гімну „Ад веку мы спалі...“. Яго адразу накіравалі, так сказаць, у рэзервавую „другую лінію“, далей ад вогненнай перадавой. Даручылі яму выдавецкія справы, увялі ў цэнтр Таварыства беларускай школы. Ён канчаткова апрацоўвае і публікуе сваю „Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры“ (ад 1905 г.) — падручнік, які і да сёння захаваў немалую каштоўнасць. У асяроддзі маладой творчай інтэлігенцыі вырас ён неўзабаве на „валадара душ“, харызматычны аўтарытэт. Тое, што рэвалюцыі праводзяць маладыя, яшчэ раз пацвердзілася.

І вось Грамада знішчожана, плеяда Тарашкевіча. засуджана на турэмныя гады. Дварчанін жа і яго сябры — на свабодзе; следчым не ўдалося прышыць ім нічога процідзяржаўнага. У новыя выбары ў польскі сейм дабіваецца ён пасольскага мандата, разам з некалькімі іншымі дзеячамі. Узнікае парламенцкі клуб „Змаганне“. Усё-такі, пара была ўжо не тая і не хапала геніяльнасці Тарашкевіча, каб спрабаваць паўтарыць слаўную Грамаду. Пры тым, у самім камуністычным руху — а гэта ж ён вырашаў аб тадышнім палітычным клімаце ў нас — адбываліся перамены, якія напярэдадні другой сусветнай вайны давялі да ліквідацыі левага падполля, КПЗБ. Гэта відаць па лёсе Дварчаніна, па тым, як загасала ягоная энергія; у самім жа „Змаганні“ пашыралася характэрная атмасфера падазронасці, недаверу, паліцэйскае светабачанне (называючы тое тэрмінам з сацыялогіі). І хоць Дварчанін не быў камуністам, не мела гэта выразнага значэння яму, бо шырокую дзейнасць, накшталт папярэдняй, перакрэслівалі тыя ж варункі і ў „другой лініі акопаў“, карыстаючыся моднаю і сёння моваю вайскоўцаў, дыміў псіхоз, які зашкодзіў проста страшэнна: важнейшым станавілася тое, з кім ты страляеш, чымсьці — у каго! Арышты і рэвізіі ў „Змаганні“ — гэта амаль жарты ў параўнанні з вялікай акцыяй супроць Грамады.

Ігната Дварчаніна з яго непалітычным языком папацягалі па судах, даўшы яму ажно дванаццаць адзін год цяжкага зняволення (рэдукаванага пасля на менш). Апынуўшыся — у выніку вядомага абмену палітвязнямі — у Беларускай ССР, загінуў ён у 1937 годзе.

**Сакрат Яновіч**






На ўрачыстасць у Дубічы Царкоўныя з'ехаліся жыхары з усіх суседніх гмін.



Ідуць ветэраны: Ануфрый Галёнка з Пасечнікаў, Даніла Антасюк з Дубін, Мікалай Лаўрыновіч з Пасечнікаў Вялікіх, Пятро Лабаноўскі, Рыгор Шарэйка і Міхаіл Швед з Новага Беразова.

# Помнік удзячнасці

Год таму назад, калі Беласточчына адзначала 40-ю гадавіну вызвалення ад гітлераўскай акупацыі і саракавыя ўгодкі народнай улады ў нашай краіне, у Дубічах Царкоўных рашылі ўстанавіць помнік савецкім воінам, якія загінулі ў баях за свабоду гэтага кутка нашай зямлі. Паўстаў ганаровы грамадскі камітэт пабудовы помніка, у які ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Па закліку камітэта паплылі добраахвотныя ахвяраванні. За кароткі час сабралі амаль паўмільёна злотых. Можна было прысту-

## Ваенныя сцежкі

## Дар сэрца

У нядзелю, 12 мая 1985 года, у Дубічах Царкоўных панаваў святочны настрой. Завяршаўся высакародны пачын жыхароў гэтай вёскі і цэлай дубіцкай гміны. Адбывалася ўрачыстае адкрыццё помніка ў гонар савецкіх воінаў, паўшых у баях за свабоду гэтага куточка нашай зямлі.

„Вечная хвала салдатам Чырвонай Арміі, загінуўшым у гадах 1941-1945 на тэрыторыі гміны Дубічы Царкоўныя“.

Так напісана на пліце, памешчанай на цэнтральным месцы на дубіцкім помніку. Бакавыя пліты ўвекавечваюць вядомыя імёны салдат, імёны, якія ўдалося захаваць ад забыцця.

З левага боку:

Галкін Іван П. — капітан; Маскаленка Дзмітрый — старшы лейтэнант, Абстолімаў Ананій — малодшы лейтэнант, Ермалаеў Пётр М. — сяржант, Бычкоў Ігар І., Чагніеў Фёдар М., Чыстоў Георгій Г., Фралоў Ігар М., Ганеедун Яўсей К., Яўсееў Сяргей М., Курылка Грыгорый, Кушкоў Мікалай І., Луконеў Аляксандр І.

На правай пліце:

Малашка Валянцін, Нісенбаўм Самуіл Н., Петрачэнка Аўсеній, Сямёнаў Іван Т., Саліверстаў Пётр Сільвестравіч, Сарока Ілья А., Сцяпанаў Сяргей Я., Свідра Анатоль, Ткачоў Якаў В., Уласаў Аляксандр, Вінаградаў Пётр В., Уладыкін Грыгорый, Зялёнка Грыгорый П.

І пад гэтымі прозвішчамі: 426 невядомых.

І гэта ў адной толькі гміне, дзе вёскі Дубічы Царкоўныя, Тафілаўцы, Грабавец, Ягаднікі, Вітава, Карыціскі, Стары Корнін, Доўгі Брод, Чэхі Арлянскія, Вілюкі, Войнаўка, Старына, Палічна, Белая Страж... А колькі яшчэ іншых вёсак на нашай шматпакутнай зямлі! І кожная вёска, з якой даводзілася выбіваць лютага ворага мае сваіх герояў, найчасцей невядомых. Возьмем, для прыкладу, вёску Старына, што схавалася сярод дрымучага лесу на ўскраіне Белавежскай пушчы, ужо ля самай дзяржаўнай граніцы. Пачатковая школа ў Старыне апякуецца тут помнікам, на якім па-польску і па-руску напісана:

„Тут забіты ў баі за вызваленне Польшчы старшы лейтэнант Маскаленка Дзмітрый Георгіевіч“.

Пад гэтым надпісам красамоўная дата: 19. 12.23 — 19.07.44. Значыць, старшаму лейтэнанту Д. Г. Маскаленку пайшоў тады 21 год:

ціць да ажыццяўлення гэтай высакароднай ідэі. Селянін з вёскі Краськоўшчына — Мікалай Корх — вядомы ў ваколіцы народны умелец, узяўся апрацаваць праект гэтага помніка і выканаў яго ў грамадскім пачыне. Гміна толькі забяспечыла яго неабходнымі матэрыяламі.

— За такую работу я грошай не вазьму! — заявіў Мікалай Корх. І гмінная рада нарадовая ў Дубічах Царкоўных рашыла прызнаць яму спецыяльную ўзнагароду.

Месца для помніка выбралі недалёка за школай і царквою, дзе ў вайну якраз ішлі заўзятыя баі. Упарадкавалі яго таксама ў грамадскім пачыне. Шныра працавалі жыхары ўсіх вёсак Дубіцкай гміны. У будучыні будзе тут вясковы парк адпачынку.

І ў нядзелю, 12 мая г.г. усё завяршылася магутнай, дасканала сарганізаванай, патрыятычнай урачыстасцю, у час якой быў устаноўлены гэты помнік савецкім салдатам.

Фотарэпартаж
**В. Рудчыка**



...І стаў на паслугменне баец-чырвоназармеец.



А пасля Дубічы Царкоўныя грымелі песнямі. На здымку: самадзейнікі з Орлі.

У Дубічах Царкоўных гаварылі мне, што ён — сын вядомага маршала Савецкага Саюза — Маскаленкі Кірыла Сямёнавіча. Але хіба гэта не так, бо на помніку за вёскай Старына выразна высечана: „Дзмітрый Георгіевіч", а не — „Дзмітрый Кірылавіч". Можа гэта нехта з яго радні, скажам, пляменнік, бо, сапраўды, маршал К. С. Маскаленка аднойчы прыязджаў на месца гібелі старшага лейтэнанта Д. Г. Маскаленкі, а раней яшчэ па яго хадайніцтву ўстаноўлен гэты помнік у Старыне.

Не кожны, аднак, мае маршала ў радні. Пётр Салівярстаў доўгі час спачываў на брацкіх магілках савецкіх воінаў, што за Гайнаўкай, як адзін сярод шматлікіх гэтых невядомых абаронцаў нашай зямлі. І толькі Белавежская пушча, штодзённа пяяла яму свае суцяшальныя песні.

У той час у вёсцы Карыцкі жыў Ігнат Лаўрыновіч — добрасумленны беларускі селянін. Як і ўсе іншыя людзі з гэтых ваколіц, ён заўсёды праяўляў братэрскія пачуцці да ўсіх рускіх. Ігнат Лаўрыновіч быў солтысам у сваёй вёсцы і па службоваму абавязку прымаў удзел у эксгумацыі астанкаў савецкіх салдат, якія загінулі на тэрыторыі яго салэцтва. У кішэні гімнасцёркі аднаго адкапанага салдата захаваўся дакумент, метрыка нараджэння. На гэтай аснове запісалі яго імя і прозвішча ў пратакол, а метрыку солтыс забраў сабе, маючы надзею, што паведаміць неяк сям'ю героя, дзе давялося яму загінуць і дзе спачываюць яго косці.

Гэта было ў 1950 годзе. Над светам якраз разгарэлася халодная вайна, якую накінулі нам даўнейшыя саюзнікі, у першую чаргу ЗША і Англія. Напружаныя міжнародныя абставіны не спрыялі таксама наладжванню і прыватных кантактаў між грамадзянамі Польшчы і СССР.

І так праходзіў час, запоўнены ўласнымі штодзённымі клопатамі і справамі. Аб метрыцы Салівярстава Ігнат Лаўрыновіч крыху прызабыў. А пасля і сам ён памёр.

У Беластоку жыў яго сын Даніла. Калісьці пацікавіўся ён бацькавымі паперамі і натрапіў на гэтую метрыку. У памяці сталага ўжо чалавека аднавіліся малюнкі цяжкіх перажыванняў ваенных гадоў, асабліва ў чэрвені 1941 года і ліпені 1944 года. Успомніў ён, як адкопвалі тут гэтых салдат, як іх перавозілі на брацкія магілкі ў Гайнаўку. І рашыў напісаць па ўказанаму адрасу на імя і прозвішча бацькі загінуўшага салдата. Адказу давялося чакаць доўга, вельмі доўга. Бо адкуль было яму ведаць аб тых шматлікіх бедах, якія лютая вайна прычыніла сям'і Салівярставых? Жылі яны ў вёсцы Ізвозная на поўдні Ноўгарадскай вобласці. У Сільвестра і Лукерыі Салівярставых было дзве дочкі і два сыны. Пятра прызвалі ў армію восенню 1939 года. Давялося яму служыць у нашых баках, на станцыі Чаромха, дзе абсталяваўся тады ваенны гарадок. Там

(Працяг на стар. 8)




(Працяг са стар. 4)

## КРОК НАПЕРАД

жыцця і не забываюцца аб здабыванні сабе саюзнікаў, без якіх у сённяшнім свеце існаванне становіцца немагчымым.

Саюзнікамі нашымі быць павінны ўсе, з кім нам прыходзіцца жыць і працаваць. Першым саюзнікам у выхаванні нашых дзетак павінны быць прадшколле і школа, безумоўна. І якраз ствараюцца спрыяльныя ўмовы, каб наладзіць цеснае супрацоўніцтва грамадзян з асветнымі ўладамі, са школай. У краіне ўзнік „Нарадовы пачын дапамогі школе". Старшыня Краёвага камітэта НПДШ, намеснік маршалка Сейма прафесар Збігнеў Гэртых гаварыў: „Усё больш усеагульнай становіцца думка, што за выхаванне нашых дзяцей адказваем мы ўсе. Школа павінна стацца ўстановай сапраўды адкрытай, шырока супрацоўнічаючай з грамадствам, у якім яна жыве".

Прадпрыемствы і ўстановы, у якіх працуюць беларусы Беласточчыны, думаю, не меншую дапамогу даюць школе ў рамках — і па-за рамкамі — НПДШ, чым прадпрыемствы і ўстановы ў іншых раёнах краіны. Такім чынам маюць зусім не меншае права дамагацца, каб гэта дапамога давала карысць і самім беларусам, каб справа навучання беларускай мове ў школах Беласточчыны была так важкай, як і справа навучання польскай мове.

**А. Маўчун**

## БЕЛАРУСКАЯ РАДЫЁПЕРАДАЧА

У кожную суботу ў 18[00] гадзін слухаю я перадачу на беларускай мове, якую вядуць Лідзія Гайдук і Уладзіслаў Праховіч. Вельмі яна мне падабаецца. Многа можна пачуць у ёй аб працы гурткоў БГКТ, жыцці людзей на вёсках. Вельмі падабаецца проза, якую чытае Міхась Шаховіч. Я з вялікім захапленнем слухаю яе і цешуся, што па радыё чуваць словы такія, якія вучыла вымаўляць мяне мама ад першых дзён майго нараджэння.

Аднак найбольш падабаюцца мне беларускія песні, якія спяваюць розныя калектывы з Беласточчыны. Аж міла паслухаць! І таму лепшыя песні, якія яшчэ калісьці чуў я на вёсцы і якіх не чуў ніколі, наігрываю на магітафонную плёнку, каб у будучыні слухаць іх, калі захачу. Аднак амаль ніколі немагчыма наігрываць іх ад пачатку. І таму мая асабістая заўвага і просьба, каб гаварыць, што цяпер будзе такая то і такая песня.

Яшчэ прашу вас, калі можаце, прышліце за паштовым залічэннем дзве касеты з беларускімі і такімі, як гавораць беларусы на вёсках, песнямі. У апошнія дзве суботы вельмі прыгожа іграў і спяваў аркестр з Дубінаў. Няхай і песні ў іх выкананні знойдуць месца на касеце.

**Васіль Асеннік**
Бельск

# Зорка
## Старонка для дзяцей



*Дзяўчаткі з бельскай „тройкі“, якія спявалі ў дуэце і заваявалі першае месца. Злева направа — Малгося Дзмітрук — акампаніятар, Аня Кудзюк і Ася Лукашук — дуэт.*

## Свята песні

Сёлетні цэнтральны агляд „Беларуская песня-85“ для школьнікаў, які адбыўся 19 мая, сабраў незвычайна вялікую колькасць удзельнікаў. Амаль усе прыехалі ў нацыянальных касцюмах, вельмі калярова і радасна выглядала ўся вялікая зала ў будынку Галоўнага праўлення БГКТ. Удзельнікі і слухачы біткам набілі залу, так што выступіўшыя шукалі ўжо сабе месца для адпачынку ў суседняй святліцы.

Быў гэта конкурс на вельмі высокім узроўні. Шанцы заняць добрыя месцы мелі толькі дзеці, якія сапраўды добра падрыхтаваліся, мелі адпаведны рэпертуар і абавязкова мілагучныя галасы. А такіх аказалася вельмі многа.

Асаблівае ўражанне зрабілі інструментальна-вакальныя калектывы.

Проста цудоўна выглядаў і выконваў новыя і вельмі сімпатычныя дзіцячыя песенькі калектыў малодшых дзяцей са школы № 3 у Бельску пад назвай „Нашыя дзеці“. Калектыў гэты складаўся з хору і групы інструменталістаў. Умелае, зладжанае выкананне імі праграмы зусім запалоніла не толькі залу, але і старшыню журы музыканта-прафесіяналіста Сцяпана Копу. І гэтаму калектыву было прызнана першае месца ў катэгорыі вялікіх калектываў.

Вельмі добра выступіў таксама вакальна-інструментальны калектыў са Старога Ляўкова. Гэты калектыў амаль штогод ўпрыгожвае сваімі выступленнямі агляды беларускай песні для школьнікаў і штогод займае першыя месцы. У гэтым калектыве дзеці і спяваюць, і граюць на розных інструментах і нават прытанцоўваюць. Маленькая салістка гэтага калектыву Марыня Аліферук спявала так упэўнена, так мілагучна і чыста, што аж дзіўна было, калі яна паспела за сваё кароткае жыццё навучыцца так захоўвацца на сцэне. Калектыў са Старога Ляўкова заняў другое месца.

На трэцім месцы аказаўся малады калектыў з Ляшукоў. Хор гэты таксама спяваў у суправаджэнні групы цымбалістаў і акардэона. І іх песні былі цікавыя і добра выкананыя.

Наогул хочацца падкрэсліць, што ў падрыхтоўку да конкурсу шмат працы ўклалі настаўнікі беларускай мовы і музыкі. Таму і конкурс быў вельмі ўдалы.

У меншых вакальных групах выступіла дзевяць калектываў. Найлепшым аказаўся квінтэт з Ласінкі. Другое месца падзялілі квартэт з Ляўкова і квінтэт з Дашоў. Трэцяе — групы з Орлі, Аўгустова і квартэт з Ласінкі. Пахвалены былі за добрае выступленне таксама калектывы са Старога Корніна, Дубяжына і гайнаўскай школы № 3.

Захапленне гледачоў выклікалі дуэты. Было некалькі цудоўных пар, і гледачы ўзнагародзілі іх бурай апладысментаў. Першае месца было прызнана супольна дуэту з бельскай „тройкі“ і дзяўчаткам з Дашоў. Дзяўчаткі з Бельска падрыхтавалі вельмі цікавыя дзіцячыя песні і прыгожа спявалі ў суправажэнні жалейкі, а момантамі і самі пераходзілі на прыігрыванне, дзяўчаткі ж з Дашоў адспявалі „Беласточчыну“, а потым падзеленую на ролі, амаль інсцэнізаваную „Пасылала баба дзеда...“

Другое месца падзялілі дуэты з Крывой і Дубяжына. Трэцяе — з Пашкоўшчыны і Старога Ляўкова.

Выступіла таксама 11 салістаў. І амаль усе з цудоўнымі галасамі. Журы прызнала аж тры першыя месцы — Валодзю Сахарчуку з Крывой, Ані Галіцкай з Нарвы і Марыні Аліферук з Ляўкова; тры другія — Крысі Бароўскай з Ласінкі, Мір-

(Працяг на стар. 10)



*Сёстры Аня і Эва Галіцкія. Аня спявала пад акампанемент сястры і заняла першае месца.*

Таіса Мельчанка

### ШЧАСЦЕ

Якое шчасце,
што зрок я маю.
Я п'ю вачамі
блакіт нябёс.
Радзіму-маці
я абдымаю —
ад ясных зорак
і да бяроз.

Якое шчасце,
што слых я маю.
Я чую пульс
зямлі маёй,
калі травінку напаўняе
сок сваёй сілай
веснавой.

Якое шчасце,
сказаць умею:
— Край родны,
як цябе люблю!
Ад шчасця гэтага
нямею,
да сэрца родны край
тулю...

Ніна Галіноўская

### ЛЯСНАЯ КАЗКА

У лесе схавалася казка.
На дрэвах яна ці ў кустах?
Напэўна, зялёная маска
На светлых яе валасах.

І доўга я казку шукаю —
Нідзе жартаўніцы няма.
Вось зараз вазьму пагукаю.
Яна ж не пакліча сама.

Стаю я пад гонкай сасною,
Крычу: „Дзе ты казка, а-у-у!“
Яна паўтарае за мною: „Ау-у!“
„Да цябе я бягу-у-у!“

Імчацца і дрэвы, і травы —
Дзівосны зялёны экспрэс.
Змяшаліся казка і ява...
Ты — цуда, ты — радасць,
мой лес!

## НЕ СІЛА, А СМЕЛАСЦЬ

### БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

Жыла ў адной вёсцы дзяўчына Марыля. Маленькая ўдалася ростам, дык усе яе не Марыляй звалі, а Марылькай. І сілу яна мела, як у таго камара.

Жартуюць з яе сяброўкі:

— На цябе, — кажуць, — хлопец як дзьмухне, дык ты і паляціш, як пух!

Ды затое была Марылька такая смелая, што і хлопец другі не дакажа. Бывала, што большы крыўдзіць меншага, — як ястраб налятала яна на крыўдзіцеля, і той адступае перад ёю.

Пачалі аднаго разу сяброўкі жартаваць з Марылькі:

— Ды ты не такая і смелая, як думаеш. Схадзі вось уначы на могілкі, тады паверым.

— І схаджу! — адказвае Марылька.

— Нябось, убачыш там пень дык душа ў пяткі схаваецца.

— А вось жа на злосць вам пайду! — кажа Марылька.

Настала ноч. Марылька пакінула сябровак на вуліцы, а сама пабегла на могілкі.

Бяжыць і не азіраецца. Каля могілак спынілася ды пайшла ціха. А каб не было страшна заспявала песню. Ходзіць так па могілках і спявае, — няхай чуюць сяброўкі, што яна тут!

(Працяг на стар. 10)

# ЁЛУПЕНЬ

Застольная бяседа была ў разгары, і мы пачалі масавыя гульні. Быў аб'яўлены бліц-конкурс на самы смешны твор з некалькіх радкоў аб нашай установе і яе людзях.

Калі ўсе здалі свае сачыненні, старшыня мясцкома Элі пачала іх голасна чытаць:

„Галоўны інжынер, малады, сімпатычны мужчына, мог бы і на нас звяртаць увагу. Гэта стымулявала б працоўнае саперніцтва. Прадстаўніца слабога полу".

Усе весела загаманілі. Я пагразіў галоўнаму інжынеру пальцам. Элі працягвала:

„Чым выклікана ў нас цякучасць кадраў? Радкаватыя ў нас кадры!.."

І зноў агульны смех. Я штучна нахмурыў бровы ў бок інспектара па кадрах. Элі чытала далей:

„Мой начальнік — ёлупень".

Настала магільная цішыня. Усе глядзелі адзін на аднаго: кіраўнік аддзела на свайго намесніка, той, у сваю чаргу, — на таго, хто рангам ніжэй. Толькі на мяне — ніхто.

— Подпіс! — рашуча патрабаваў адзін з маіх намаў.

— Ініцыял „Л", — разгублена паціснула плячамі Элі.

— Такога ў нас няма!

Тады я ўстаю. З цяжкасцю стрымліваю смех.

— „Л" — гэта я, дырэктар, — кажу, — я сам пра сябе напісаў. І, як бачыце, атрымалася забаўная гісторыя.

— Найбольш дасціпны жарт вечара! — абвясціў хтосьці.

Усе дружна падтрымалі.

— Дырэктару — галоўны прыз!

На наступным тыдні мяне знялі з пасады. Справа ў тым, што і нада мной быў начальнік.

**Тойва Пруунсільд**



— Ну, хутка мы паедзем?

# НАВУКА



## МОЦНАЯ ГАЛАВА

Калі Пятро Сцяпанавіч убачыў па тэлевізары, як яго сын моцным ударам галавы паслаў мяч у вароты праціўніка, ён радасна ўсклікнуў:

— Вось маладзец! Во галава! А калі ў школе вучыўся, дык усе гаварылі — безгаловы. Што яны цяпер скажуць?

## ПРАЎДЗІВЫ СВЕДКА

Суддзя: — Папярэджваю! Вы павінны гаварыць толькі тое, што бачылі ўласнымі вачамі, а не тое, што чулі ад іншых. Спачатку адкажыце на некалькі пытанняў: Калі вы нарадзіліся?

Сведка: — Але ж, пан суддзя, пра гэта я ведаю ад іншых.

## КАЛІ Б НЕ КУРЫЎ...

Калі будзеш курыць, — кажа жонка мужу, то не дажывеш да старасці.

— Вось яшчэ! — адказвае муж. — Мой бацька курыць без перапынку і мае восемдзесят гадоў.

— Каб не курыў, — гаворыць жонка, — меў бы ўжо не менш, як сто.



**Made in Zadrypanka**



**Выйшаў у людзі... і перастаў іх прыкмячаць.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адзін шатландзец купляў тэлевізар. Прадавец паказвае яму тэлевізары розных марак, шатландзец круціць галавой. Тады прадавец кажа:

— Ёсць яшчэ адзін тэлевізар, які магу вам прапанаваць за палову каталожнай цаны.

— А колькі каштуе каталог? — адразу ажывіўся шатландзец.

*

Кліент атрымаў лякарства і выходзіць з аптэкі.

— Пачакайце! Пачакайце! — крычыць яму аптэкар. — Я даў вам мыш'як замест соды.

— Які жах! — усклікнуў кліент.

— Вядома, — згаджаецца аптэкар, — на розніцы ў цэнах я страціў бы два франкі.

*

У час карыды ўпершыню выступаў малады матадор. Бык атакуе, у вачах матадора лёгкі спалох, і ў гэты час чуваць голас з верхняй трыбуны:

— Не бойся, Экамільё, мы тут!

## ДА ПАРЫ ДА ЧАСУ

Гарыць святло і ноч і дзень,
А ён сабе і ў вус не дзьме.
Каб не цярпела эканоміка —
Пара турнуць яго на сонейка.

**Язэп Кудзеля**

З „Весніка Задрыпоніі"

## ІКЕБАНА НА МАРШЫ

У звычайны дзень садавод Варфаламей Начны падарыў сваёй жонцы Аглаі набор духмяных букетаў, сабраны ў найлепшых традыцыях ікебаны. У кампазіцыю ўвайшлі букеты партвейну, кагору і херасу.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

**Калі мульцімільянер Джэймс дэ Біл засядае ў сваім офісе, клеркі пачціва гавораць яму: „сэр", а калі ён вяртаецца дадому, жонка называе яго проста: „мульцік".**



З чаго смяюцца суседзі.






# Курёзы

## КРЫВУЛІ ПАНА МІНІСТРА

У ФРГ дэбатуецца пытанне рэформы нямецкага правапісу. Сярод рашучых прыхільнікаў рэформы — Георг Гюльтэр, міністр культуры зямлі Рэйнланд-Пфальц. Якраз дзякуючы яго ініцыятыве ў Мангеймскім інстытуце нямецкай мовы створана камісія па гэтаму пытанню. Але, як можна меркаваць з паведамлення гамбургскага журнала „Шпігель", Гюльтэр ужо і цяпер, не чакаючы на рэформу, не вельмі лічыцца, ды й раней не лічыўся, з сучасным нямецкім правапісам: у час інтэрв'ю, якое ён даваў рэдакцыі таго журнала, яму прапанавалі невялічкі, усяго на дзесяць радочкаў, дыктант. Але і ў гэтых дзесяці радочках пан міністр умудрыўся зрабіць шэсць грубых памылак.

## КАЛІ НЕ ШАНУЕ

Адной бальніцы ў г. Грынвіч (Англія) вельмі не шанцавала: толькі за адзін год у ёй узнікала некалькі пажараў.

У іх ліквідацыі вызначыўся сваёй бясстрашнасцю электраманцёр бальніцы Джон Джонс, за што, вядома, шчодра ўзнагароджваўся. Ды ўрэшце і самому Джонсу не пашанцавала: выкрылі, што тыя пажары ён сам і наладжваў.




**Не давайце драмаць вашаму сумленню, інакш яно можа заснуць.**